Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 16 Аўторак, 8-га Чэрвеня 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень

Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр.
„ „ сярод тэксту — 25 гр.
„ „ на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

# РЭЗУЛЬТАТ=0.

Гэткім чынам Сойм наш стаіць напярэдадні свайго роспуска ці, праўдзівей кажучы, напярэдадні разгона, бо гэтая ўсепольская гаварыльня ніяк не хацела сама разыйсьціся і разстацца з цёплымі пасольскімі прывілеямі. І ня выйдзі Маршалак Пілсудскі 12 траўня „на вуліцу“, дык Сойм, яшчэ трохі пагаварыўшы, спакойна разьехаўся-б „на вакацыі“ і ўсё засталося-б пастарому аж да часу выбараў новага Сойму.

Што сучасны Сойм збанкрутаваў, што ён ня толькі не апраўдаў надзеяў і даверра сваіх выбаршчыкаў, але — фактычна давёў край да эканамічнага банкроцтва і хатняй вайны — гэта стала ясна ўсім пасьля падзеяў 12 траўня... Гэта відаць па тэй ненавісьці, якой распалілася да нашага парлямэнту ўсё грамадзянства.

Падкрэсьліўшы банкроцтва Сойму наагул, мы хацелі-б больш падрабязна падсумаваць рэзультаты работы нашых палітыкаў — беларускіх паслоў.

Рэзультаты прыкрыя...

Поўны разгром беларускага пачатковага школьніцтва. Жалю годнае становішча школьніцтва сярэдняга. Амаль поўная немагчымасьць для беларускіх матурыстаў уступленьня ў вышэйшыя польскія школы. Поўны разгром, калісь магутнага, беларускага коопэратыўнага руху. Заняпад беларускага выдавецтва. Поўная безбароннасьць беларускага сялянства. Бязупынная хваля польскага асадніцтва. Прэсіі і зьдзек адміністрацыі над беларускім сялянствам і г.д. і г.д.

Адным словам, калі да беларускага парляманцкага прадстаўніцтва было дрэнна, дык за час „абароны“ інтарэсаў беларускага народу яго прадстаўнікамі ў Сойме — стала ў шмат разоў горэй. „Праца“ нашых паслоў ня толькі не дала беларускаму народу абяцанага пасламі шчасьця, але не прынясла яму нават і цені палёгкі і цяпер беларускі народ сядзіць ля разьбітага карыта.

Гэткія рэзультаты 4 гадавой працы беларускага Пасольскага Клюба...

Праўда, вялікую ролю тут адыграў *рэакцыйны дзяржаўны рэжым*, які ўвяла ў сыстэму свайго ўрадаваньня правячая правіца. Аднак-жа галоўная прычына — ляжыць у поўнай няздольнасьці Пасольскага Клюба да творчай, рэальнай працы. Паслы нашыя аказаліся не рэальнымі палітыкамі, якія заўсёды павінны *лічацца з мамэнтам*, але абстрактнымі доктрынёрамі, апрача гучных дэклярацыяў, інтэрпэляцыяў і бясплодных інтэрвэнцыяў і інгэрэнцыяў, не даўшымі народу нічога.

У свой час беларускія паслы наракалі на сваіх хаўрусьнікаў — жыдоў за тое, што тыя здрадзілі ім і пайшлі на паразуменьне з урадам. Што жыды здрадзілі — гэта праўда, але яны аказаліся больш рэальнымі палітыкамі і, ня гледзячы на шмат горшыя спачатку адносіны да іх ураду, *здужалі дабіцца значных уступак* ува ўсіх галінах грамадзка-культурнага жыцьця свайго народа.

Галоўнымі прычынамі банкроцтва першага беларускага парляманцкага прадстаўніцтва былі: зусім не жыцьцёвая іхняя палітычная праграма і поўная няздольнасьць да рэальнай палітычнай працы. Апазыцыя дзеля апазыцыі першых гадоў адналітага Пасольскага Клюба, перайшла да адкрытага „рэвалюцыянізму“, выразіцельніцай якога аказалася „Сялянска-Работніцкая Грамада“. Аднак-жа ў сваей „рэвалюцыйнасьці“ паслы ня толькі не прытрымліваліся праўдзівых рэвалюцыйных мэтадаў, якія можа і маглі-бы даць якія-небудзь рэальныя рэзультаты, але абмяжаваліся толькі хранічным паказваньнем хвігі, альбо кулака ў... кішані. Заўсёдныя-ж ківаньні на Усход, хаця і нэрвавалі спачатку трохі палякоў, але потым былі ім на карысьць, бо далі ім „маральную“ падставу расправуляцца з беларускім сялянствам, як нібы з бальшавікамі.

Праўда, адкалоўшыяся ад „Грамады“ беларускія групы, як беларускія „хадэкі“ і „Сялянскі Саюз“ адыйшлі трохі ад „рэвалюцыйнай“ ідэалёгіі „Грамады“, але зрабілі гэта запозна і ўжо нічога рэальнага беларускаму народу даць не пасьпелі, апрача хіба нацыянальнага і хрысьціянска-маральнага ўсьведамленьня, моцны сьлед якога заставілі „хадэкі“ ў каталіцкім беларускім грамадзянстве. Што датычыцца „Сялянскага Саюзу“, дык папрабаваўшы спачатку стаць на чыста клясавы грунт, Саюз, бяз здольнага і цьвёрдага кіраўніцтва, аканчальна зьбіўся, пачаў мімаволі цягнуцца сьледам за Грамадой і нарэшце падаў у апошнім нумары свайго органа („Сялянская Ніва“ № 16), што ён дамагаецца ўтварэньня ў Польшчы *сялянска-работніцкага (!) ураду.*

Аднак-жа найбольш яскравым паказчыкам усей недарэчнасьці нашых паслоў — было захаваньне іх у часе апошніх падзеяў.

У мамэнт рашучай барацьбы дэмакратыі з рэакцыяй, яны ня толькі не дапамаглі першай, але нават у часе выбараў прэзыдэнта заставаліся ў маўклівай, нікому не патрэбнай і сьмешнай *хранічнай апазыцыі.*

Чатыры гады хранічнай апазыцыі!

Тая-ж актыўнасьць, ня толькі арганізаванага беларускага грамадзянства, але нават шэрай сялянскай масы, якую яна выявіла ў вялікім ліку тэлеграм, пасланых у Беларускі Па-

# ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЭНТА.

## Выбраны праф. Ігн. Масьціцкі.

### Нацыянальны Збор.

У панядзелак 31 траўня адбыўся ў Варшаве Нацыянальны Збор (агульнае паседжаньне Сойма і Сэната), скліканы для выбараў новага Прэзыдэнта замест адмовіўшагася Вайцэхоўскага. Былі выстаўлены дзьве кандыдатуры: лявіцай — Маршалка Пілсудскага і правіцай—пазнанскага ваяводы Бнінскага.

Пасьля першага-жа галасаваньня выбраным аказаўся Маршалак Пілсудскі, які атрымаў 292 галасы, гэта значыць—абсалютную большасьць. Кандыдат правіцы—Бнінскі атрымаў—193 галасы. Белых, ці наагул няважных картак было пададзена — 61.

### Маршалак Пілсудскі — адмовіўся.

Пасьля закончаньня выбараў, марш. Сойму Ратай паехаў да Марш. Пілсудскага, каб паведаміць яго аб рэзультатах выбараў.

Маршалак Пілсудскі выбару ня прыняў і пры гэтым перадаў марш. Ратаю пісьмо, у якім падрабязна вытлумачыў матывы сваей адмовы. Як відаць з гэтага пісьма, галоўнай прычынай адмовы Марш. Пілсудскага ад становішча Прэзыдэнта зьяўляецца недакладнасьць цяперашняй Конституцыі, якая не дае прэзыдэнту амаль ніякіх правоў. У часе размовы з марш. Ратаем, Марш. Пілсудскі паказаў, як на пажаданага для яго кандыдата, на праф. І. Масьціцкага.

### Вызначэньне новых выбараў.

Пасьля візыта да Марш. Пілсудскага, марш. Ратай вярнуўся ў Сойм, дзе закамунікаваў Нацыянальнаму Збору аб адмове Маршалка Пілсудскага і заявіў, што вызначана другое паседжаньне Нацыянальнага Збору для выбараў Прэзыдэнта на 1 чэрвеня.

### Выбары 1 чэрвеня.

А 10 гадз. раніцай марш. Ратай адчыніў другое паседжаньне Нацыянальнага Збора.

На гэты раз былі выстаўлены ўжо тры кандыдатуры: праф. Масьціцкага, ваяводы Бнінскага і пасла Марка, кандыдатуру якога дэманстрацыйна выставілі пэпэсы.

Пры першым галасаваньні ніхто з кандыдатаў абсалютнай большасьці не атрымаў. За праф. Масьціцкага была падана 215 галасоў, за Бнінскага — 211 і за пасла Марка — 56. Няважных картак падана—63.

### Масьціцкі выбраны Прэзыдэнтам.

Пры паўторным галасаваньні пэпэсы галасавалі ўжо за праф. Масьціцкага, які і атрымаў абсалютную большасьць—280 галасоў. За Бнінскага падана 200 галасоў і за Марка—1.

Беларускія паслы ў часе ўсіх выбараў *ад галасаваньня устрымаліся.*

### Прысяга новага Прэзыдэнта

4 чэрвеня адбылася ў Замку, у прысутнасьці дыплёматычнага корпуса, урачыстая прысяга новага Прэзыдэнта на вернасьць Конституцыі, пасьля чаго ўся ўлада афіцыяльна перайшла ў яго рукі.

